Словы Ўл. **МАЯКОЎСКАГА**

# Піонэрская—вайсковая




*Мэлёдыя В. БЕЛАГА*
*Памеркаваў ЯФІМАЎ*

**Вінтоўкі возьмем новыя,**
**На штык сьцяжкі.**
**І з песьняй у стралковыя**
**Ідзем гурткі.**

**Раз, два! Ўсе у рад!..**
**Шагай атрад!**

**Як толькі рушаць арміі**
**Ў рашучы бой,**
**Мы выйдзем санітарамі**
**Ў вайсковы строй.**

**Прыпеў.**

**Калі вайна-мяцеліца**
**Пачне шагаць,**
**Павінны ўмець мы цэліцца,**
**Умець страляць.**

**Прыпеў.**

**Блішчаць вінтоўкі новыя,**
**На іх съцяжкі.**
**І з песьняй у стралковыя**
**Ідзем гурткі**

**Раз, два! Ўсе ў рад!..**
**Шагай, атрад!**

---

**„НІВОДНАЙ ПЯДЗІ ЧУЖОЙ ЗЯМЛІ НЯ ХОЧАМ, АЛЕ І СВАЕЙ ЗЯМЛІ НІВОДНАГА ВЯРШКА НІКОМУ НЕ АДДАМО“**

**(СТАЛІН)**

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 2 Люты 1931 г.

Адрас Рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## ТАВ. ВАРАШЫЛАВУ—50 ГАДОЎ





*Наркомваенмор Клім Варашылаў.*

# НА ВАРЦЕ КРАІНЫ САВЕТАЎ

## ТРЫНАЦЦАЦЬ СЛАЎНЫХ ГОД ЗМАГАНЬНЯ І ПЕРАМОГ



*На здымку (справа налева): т.т. Варашылаў, Фрунзэ, Будзёны.*

Пасьля кастрычніка 1917 году на нас пачалі нападаць усе былыя царскія генэралы і замежныя буржуі. Яны хацелі ваеннаю сілаю зьнішчыць Савецкі Саюз і заваяваную ў Кастрычніку рабочымі і сялянамі волю.

Супроць нязьлічоных сваіх ворагаў Савецкая ўлада арганізавала Чырвоную гвардыю. Чырвоная гвардыя была добраахвотным войскам. Яна адважна змагалася з першым націскам розных генэралаў, якія выступалі супроць рэволюцыі. Чырвоная гвардыя зьнішчыла генэральскія банды Каледзіна, Краснова, Карнілава і інш.

Але войскі ворагаў расьлі з кожным днём. Буржуазія Англіі, Францыі, Чэхіі, Грэцыі, Італіі і ўсяго сьвету пасылалі на краіну саветаў свае войскі. Іх войскі былі добра адзетыя і ўзброеныя з ног да галавы. Супроць такой вялізарнай сілы цяжка было змагацца Чырвонай гвардыі.

І вось 23 лютага ў 1918 годзе вышаў дэкрэт савецкага ўраду аб арганізацыі Чырвонай арміі. Чырвоная армія скора стала магутнай і страшнай для ворагаў сілай.

Чырвоная армія перамагла ўсіх ворагаў, хоць гэтыя ворагі мелі куды больш лепш падрыхтаванага, добра адзетага і ўзброенага войска. Чырвоная

армія перамагла таму, што ведала, за што змагалася. Чырвонаармейцы часта з аднымі толькі вінтоўкамі ў руках выступалі супроць варожых танкаў і бранявікоў і мелі перамогу. Танкі і бранявікі пераходзілі ў рукі чырвонаармейцаў. А чырвонаармейцы ўжо ўмелі іх скарыстаць як належыць!

Многа слаўных старонак мае гісторыя Чырвонай арміі. Апошняя слаўная старонка яе гісторыі—змаганьне з кітайскімі генэраламі. У сярэдзіне 1929 году кітайскія генэралы сілаю захапілі Далёка-Усходнюю чыгунку, якая належыць нашаму Саюзу. А пасьля захопу чыгункі пачалі пераходзіць нашу граніцу ды грабіць насельніцтва. І вось на абарону граніц СССР выступіла частка Чырвонай арміі—Асобная Далёка-Ўсходняя армія пад камандаю тав. Блюхера.

Кітайскія генэралы слалі полк за полкам супроць нашай арміі. Яны ўгаварылі беднату, што бальшавікі рэжуць кітайцаў на кавалкі, дзе-б ні стрэлі, што трэба ўсім выступіць супроць бальшавікоў.

Але Чырвоная армія паказала белым генэралам, як выступаць



*Сібірскія партызаны.*

супроць краіны Саветаў. Нашы чырвонаармейцы змагаліся сьмела і адважна. З кітайскім насельніцтвам і палоннымі чырвонаармейцы абыходзіліся patavarysku. Кітайскія рабочыя і сяляне ўбачылі, што бальшавікі куды лепш з імі абыходзяцца, чымся свае генэралы.

Чырвоная армія цьвёрда стаіць на варце савецкіх граніц, яна перамагала і будзе перамагаць усіх ворагаў. Вось як пісаў Ленін аб нашай Чырвонай арміі:

**„Буржуазія ўсяго сьвету накінулася на нашу рэспубліку, каб задушыць яе. А мы пачалі ствараць армію, якая першы раз у гісторыі ведае за што яна змагаецца!“**



*На вайне.* *З малюнку ангельскага мастака.*

# ТАНКІ І САНКІ

*Апавяд. М. АЛЕЙНІКАВА*
*Малюнкі А. ПАХОМАВА*



## ГЕНЭРАЛ СЯМІКАЛЕНАЎ

Улетку 1918 г. у казацкую сталіцу Новачэркаск прыехаў барадаты мужык у валёнках і падраным кажушку.

Ён зайшоў у адзін дом і прабыў там тры гадзіны. Калі ён вышаў, на ім былі добра навакcаваныя боты, штаны з чырвонымі кантамі і новы мундзір з генэральскімі пагонамі.

Чорная шашка зьвінела ў яго на баку.

Ён сеў у павозку і сказаў фурману:

— Вязі мяне ў палац, да атамана.

Атаман сядзеў у сваім пакоі і глядзеў на карту. Убачыўшы госьця, ён ускочыў на ногі і закрычаў:

— Генэрал Сямікаленаў? Адкуль вы?

Генэрал расказаў, што ён уцёк ад бальшавікоў.

— Чырвоным скора канцы,— сказаў генэрал.—У іх нічога няма. За фунт хлеба плацяць два фунты папяровых грошай— вось якія ў іх грошы.

— А што ў іх за армія?— запытаўся атаман.

— Якая-ж у іх армія. Галадранцы, а не салдаты. Ботаў у іх няма, снарадаў няма, камандзіраў няма, нічога няма.

## КАЧАГАР

Генэрал казаў праўду. У бальшавікоў камандзіраў ня было.

У той-жа самы дзень з гораду Мураму бальшавікі пасылалі на варту новы полк. Старшыня савету выклікаў да сябе таварыша Івана Дарафеева і сказаў яму:

— Ты прызначаны камандзірам палка.

— Як-жа я буду камандаваць палком? — сказаў Іван Дарафееў.—Я ў гэтай рабоце нічога ня ведаю.

Старшыня савету адказаў:

— У нас вучоных камандзіраў няма, а ты чалавек такі, якому можна даверыць,

— Але-ж я качагар.

— А я сьлёсар,—адказаў старшыня,—а вось цэлым горадам кірую.

— Ну, што-ж,—сказаў Іван Дарафееў, надзеў шапку задам наперад і паехаў на фронт.

## „ЧЫРВОНЫМ СКОРА КАНЕЦ"

Пад хутарам Булачкіным адбываўся бой. Белыя біліся з чырвонымі.

Белыя былі адзеты і абуты па форме, а чырвоныя—хто ў ботах, хто ў лапцях, а хто і босы, у адных анучах.

Белыя ўмелі ваяваць. Іх гарматы білі без прамаху, а чырвоныя стралялі кепска. Трахаця ўвесь полк Івана Дарафеева быў перабіты.

Генэрал Сямікаленаў пасьля бою дапытваўся ў палоннага:

— Хто ў вас палком камандаваў?

— Іван Дарафееў.

— Хто ён такі? Афіцэр?

— Не, качагар.

Генэрал нават за галаву хапіўся. Яму было крыўдна ваяваць з качагарам. Усё сваё жыцьцё ён біўся толькі з генэраламі.

— А колькі ў вас войска асталося?—запытаўся генэрал.

— Ня лічыў,—адказаў чырвонаармеец.—Народу ў нас многа.

— І ўсё качагары?—запытаўся генэрал.

— Чаму качагары? Шаўцы таксама ёсьць. Сьлёсары, грузчыкі, кавалі ёсьць.

— Скора чырвоным качагарам канец,—сказаў генэрал.—Да нас на дапамогу ідуць ангельцы, французы, сербы, чэхаславакі, бельгійцы ды румыны.

## АНГЕЛЬСКАЯ ДАПАМОГА

Генэрал казаў праўду. Неўзабаве да белых прыехалі госьці з усяго сьвету.

Ангельскі палкоўнік Кейтон сказаў генэралу Сямікаленаву:

— Скора мы з вамі, генэрал, усю Расію заваюем. Прывезьлі мы вам падарункі ад нашага караля. Знарады, шакаляд, шынэлі, малако ў бляшанках, гарматы, цёплыя вопраткі, паравозы.

— Дзякуй,—сказаў генэрал Сямікаленаў.—З такою дапамо-




*— Ты прызначаны камандзірам палка.*

гаю мы скора да самай Масквы дойдзем.

Генэрал казаў праўду. Белыя пачалі наступаць з усіх бакоў. На поўначы, на поўдні, на захадзе на ўсходзе—усюды франты.

Генэрал Сямікаленаў адзначаў на карце ўсё новыя і новыя гарады, што былі ўзяты белымі; узяты Архангельск, узяты Царыцын, узяты Менск, узята Казань, узяты Харкаў, узята Палтава, узяты Кіеў...

— Нішто сабе,—казаў генэрал. На дзень па гораду бяром. Дзякуй ангельцам саюзьнікам!



*Траха ня ўвесь полк Івана Дарафеева быў перабіты.*

## ГОСЬЦІ ВЫЕХАЛІ

Генэрал казаў праўду.

Качагар Іван Дарафееў сядзеў у разбуранай знарадамі хаце. На дварэ было многа салдат у ангельскіх фрэнчах і ангельскіх абмотках.

Да Дарафеева прыехаў з Масквы таварыш.

— Што ў цябе тут за ангельцы?—запытаўся ён.—Палонныя, ці што?

— Якія там палонныя,—адказаў качагар.—Гэта нашы чырвонаармейцы. Дзякуй ангельцам-саюзьнікам; салдат яны дамоў павезьлі, каб да нашых не перайшлі, а вось шынэлі і знарады пакінулі нам. Цяпер і зімою ваяваць можна.

А генэрал Семікаленаў сядзеў і лаяў ангельцаў, французаў, грэкаў, італьлянцаў і румын.

Але тут яго паведамілі, што прышоў афіцэр з галоўнага штабу.

— Скора чырвоным канец,—сказаў афіцэр.—Генэрал Мамонтаў чырвоным у тыл зайшоў. З ім цэлы корпус коньніцы. Мы наступаем на Варонеж, на Чарнігаў, на Арол.

Генэрал Сямікаленаў зноў павесялеў.

— Вось мы і без саюзьнікаў абыйдземся,—сказаў генэрал.—Самае галоўнае на вайне—коньніца. Коні ў нас сытыя ды гладкія, а ў бальшавікоў адны недабойкі. У нас усе генэралы на белых конях езьдзяць, а Ленін, я думаю і на старога нядбайка ніколі не садзіўся.

## КАЧАГАР НА КАНІ

Генэрал казаў праўду.

Ленін верхам на кані ня езьдзіў. Але Ленін ведаў, што бяз коньніцы не абыйсьціся. Ён сказаў:

*Пролетары, на каня!*

Пачалі адусюль зьбіраць коняй. Адважнага і сьмелага байца Будзёнага паставілі за камандзіра коннай арміі.

Сеў на каня і качагар Іван Дарафееў. Конь у яго быў вараны, грыва ў чырвоных істужках, хвост да зямлі.

Выехаў Іван Дарафееў на ўзгорак. А генэрал Сямікаленаў на белым кані сядзіць і ў біноколь глядзіць.

„Бач, ты, думае, як прыбраўся. Скора ў мяне з сядла выляціш“.

А праз месяц белы конь імчаўся на ўвесь дух. Гэта генэрал Сямікаленаў уцякаў ад качагара.

— Нічога!—крычаў генэрал Сямікаленаў, уцякаючы ад чырвоных.—Нядоўга мы ўцякаць будзем. Скора чырвоным канец. На параходах едуць да нас танкі!

## ТАНКІ І САНКІ

Генэрал казаў праўду.

На параходах з Англіі прыехалі танкі. Прышлося тры танкі і генэралу Сямікаленаву. Падышоў генэрал да танка, пастукаў



*Да генэрала прывялі палоннага.*

па ім рукою і кажа афіцэрам:

— Слаўная чарапаха! Яна і гару возьме і ў акоп залезе. Дрэвы, як саломінкі, рэжа. Пусьці толькі яе ў лес—праз поўгадзіны гладкае месца застанецца. Сьпераду ў яе гарматы, ззаду кулямёт. Яе нават куля не праб‘е і знарады назад адскакваюць.

Генэрал паклікаў да сябе афіцэра і перадаў яму ліст паперы.

На лісьце было напісана:

Чырвонаармейцы, здавайцеся!
Заўтра
мы пускаем супроць вас танкі.

— Паручык, — сказаў ён,— пашлеце чырвоным два самалёты. Няхай яны мае лісткі параскідаюць.

На другі дзень ранenька тры танкі загрымелі ланцугамі і

палезьлі да бальшавіцкіх акопаў. Чырвоныя напалохаліся і пачалі ўцякаць. А танкі стралялі ўсьлед за імі з гарматаў і кулямётаў.

Генэрал Сямікаленаў стаяў на гары і бачыў усё гэта ў бінокль.

— Канец чырвоным,—сказаў ён.—Проціў танкаў ня пойдзеш.

Не пасьпеў ён гэта сказаць, як адзін танк паваліўся на бок.

— Што здарылася? — запытаўся генэрал Сямікаленаў.

— Бальшавіцкі знарад папаў,—адказаў афіцэр.

У гэты час другі танк таксама спыніўся.

— Што такое? — запытаўся генэрал.

— У гразі заграз,—адказалі генэралу.

— Нічога,—сказаў генэрал.— Скора гразі ня будзе. Зіма прыдзе. Тады мы ім пакажам.

Прышла зіма. Белыя ўсё адступалі і адступалі. Танкі не памаглі ім.

Чырвоныя кулямётчыкі пачалі езьдзіць на лёгкіх санках, у якія запрагалі па трое коняй. Наляціць такая тройка са звонам, з бразготкамі, кулямётчыкі абстраляюць белых і далей. Паспрабуй, дагані!

У студзені 1920 г. чырвоная коньніца ўехала ў казацкую сталіцу Новачаркаск.

А за імі кацілі санкі з кулямётамі. На санках было напісана буйнымі літарамі:

*Вы да нас на танках,*
*Мы да вас на санках.*

Гэта быў поўк качагара Івана Дарафеева.

## За што змагаліся

Генэрал Сямікаленаў уцёк за граніцу. Ён напісаў кніжку аб Чырвонай арміі. У кніжцы напісана вось што:

— Чаму нас разьбілі? У нас былі спрактыкаваныя камандзіры, мы былі накормлены, адзеты і абуты, нам памагалі саюзьнікі, у нас былі танкі. А ў чырвоных нічога ня было. Але чырвоныя ведалі, за што змагаліся, і таму яны перамаглі. Трэба сказаць праўду: рабочыя і сяляне ня з намі, а з імі.

Генэрал казаў праўду.



*Іван Дарафееў на кані.*




**Верш ЯКУБА КОЛАСА**
**Малюнкі РАЗАНАВА**

З імглы старога сьвету,
Дзе ўлада—капітал,
На грозны край Саветаў
Насоўваецца шквал.

Там спраў крывавых
зграі
Рыхтуюць танкі, газ.
На Вісьле, на Дунаі
Шалёны сьвістапляс.

Пашлі ў хаўрус ваенны
Баярын і пан—кат,



А з імі друг нязьменны—
Французскі адвакат.

І дышуць яны злобай
На творчы наш размах,
Ды выкусяць хваробу
Баярын і пан—лях.

Прагніўшыя руіны,
Ваш намысел дурны.
Савецкае краіны
Мы верныя сыны!

На варту мірнай працы
Нас ставіць СССР,
Але калі з палацаў
Памкнецца люты зьвер,

І ў дзікай сваёй злобе
Зачэпіць вольны край,—
На векі яго ўгробім!
Баярын, гэта знай!

Мы—чырвонаармейцы,
А гэта—грозны гук!
Гнілыя вашы лейцы
З паганых вырвем рук!



Разбурым пляны
шпегаў,
Наёмнікаў ліхіх,
Як білі мы стратэгаў,
Замежных і сваіх!

Пакрышаны куміры,
Багі пашлі на хлам,
У нашым бурным віры
Магіла будзе вам!

За намі міліёны
Гартованых дружын—
Працоўных батальёны
Паўстануць, як адзін!

Хто сьпыніць іх
імкненьне?
Адхіліць волі час?
Паток іх вызваленьня,
Паны, затопіць вас!

Мы—чырвонаармейцы,
І порах наш сухі,
Праступніцкай сямейцы
Мы вытрасем духі.






# Самалёт

*Апавяданьне Л. ЧАРНЯЎСКАЙ* *Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Лёнька спыніўся ля чыгуначнага мосту. Трэба было пераходзіць на другі бок вуліцы. Лёнька агляднуўся.

Званком расчышчаў сабе дарогу трамвай, поўна набіты людзьмі. Збоку ад трамваю поўз і бубнеў, як чмель, грузавы аўтомобіль з цэлай гарою мяшкоў. Двое людзей у выбеленай мукой вопратцы сядзелі на гэтай гары і аб нечым гаманілі, размахваючы рукамі.

Раптам загурчэў у паветры пераліўны аднатонны голас.

Лёнька задраў галаву і пачаў шукаць вачыма самалёт. Вунь там на кругавідзе ляціць ён ледзь прыметнаю кропкаю.

Усё гучней гурчэньне, пакрывае яно і грукат фурманак і звон трамваю.

Вось ён... За хвіліну назад нябачны яшчэ, цяпер кружыцца над горадам. Блішчаць пры паваротах крыльлі.

— Што ты так углядзіўся?—пачуў Лёнька голас над вухам. Глянуў, пазнаў таварыша.

— Юрка,—сказаў ён.—А я, брат, на самалёт дзіўлюся. Грузавік тут ехаў, мяшкоў на ім гара, а на тэй гары людзі сядзяць. „Вось,—думаю,— высока паўсьсядалі“. А тутака, братка, яшчэ вышэй. Ці паляцеў-бы ты, а?

— Во... Абы ўзялі... Сходзім калі з табой на

аэродром. Я туды хадзіў раз, бачыў як самалёты падымаюцца. Птушка крыльлем узмахне і ляціць адразу, а ён дык разьбяжыцца па роўным месцы і тады толькі паляціць, а калі паляцеў ужо, дык і птушцы за ім ня ўгнацца.

— А я,—кажа Лёнька,—бачыў раз на карціне ў кіно, як у Маскве самалёты лётаюць. Яны і лёталі і куляліся ў паветры, і многа іх, як чарада птушак.

— Ну і высока-ж гэты ўзьняўся... Нас, каб адтуль глянуць, дык і ня ўбачыш. Яму і вагоны на чыгунцы і трамвай мурашкамі здаюцца.

— А куды ты ідзеш?

— Я да хаты, сход у нас быў гаспадарчага зьвяна. Хацеў вось праз вуліцу перайсьці ды стаў задзівіўся на ўсё, як быццам гораду ніколі ня бачыў.



Лёнька прышоў дахаты. У вушох усё яшчэ пяяў песьню самалёт.

Хацелася Лёньку, каб ня згубілася ў памяці тое, што бачыў і адчуваў. Сеў і пачаў маляваць: самалёт, горад унізе, чыгуначны мост, вагоны на ім, на вуліцы трамвай, грузавік...

Потым напісалася:

„У прасторах імчыцца, імчыцца
І нікога не баіцца
Усё гудзіць, гудзіць пропэлер.
І паветраныя хвалі
Крыкам гучным разьбівае,
А ўнізе, унізе далёка
І вагоны, і трамваі
Шыбка, шыбка ўцякаюць.

Скончыўшы пісаць, Лёнька супакоўся, нібы адбыў зададзеную працу.

# ГАЛУБЫ НА ВАЙНЕ

Раней людзі ня ведалі яшчэ тэлефону, тэлеграфу і радыё. І пісьмо за 500—600 кілёмэтрэў ішло некалькі тыдняў. Ня было добрых дарог, цягнікоў ці аўтомобіляў.

Чалавек навучыўся пасылаць пісьмы паштовымі галубамі.

Паштовыя галубы паходзяць ад палявых галубоў. Яны вельмі добра бачаць і добра запамінаюць месца, над якім ляцяць.

А галоўнае—яны моцна прывыкаюць да свайго гнязда. За вязі такога голуба за некалькі сотняў кілёмэтраў—усёроўна ён прыляціць да свайго гнязда. Сьнег, дождж, туман ня стрымаюць яго. Нават уночы стары голуб-паштавік адшукае дарогу.

Цяпер як-бы галубы непатрэбны,—ёсьць пошта, тэлефон, радыё. Ходзяць цягнікі, аўтомобілі, лётаюць самалёты.

Але і цяпер ва ўсіх арміях ёсьць станцыі для галубоў, і калі патрэбна, з гэтай станцыі бяруць галубоў. Бяруць самалёты, броняцягнікі, якім на хаду патрэбна перадаць у штаб якое-небудзь паведамленьне.

Бяруць іх і каманды па сувязі.

Такія каманды маюць тэлефон і тэлеграф. Ёсьць і службовыя сабакі, і радыё. Бяз сувязі не магла-б быць баяздольнай армія.

Але бывае, што вайсковыя часьці пападаюць у такое месца, адкуль нельга, перадаць паведамленьне. Радыё не працуе, а пасылаць каго на кані нельга, бо кругом ворагі.

Вось тут на паратунак прыходзіць голуб.



Бяруць яго, пішуць на тонкай паперы паведамленьне і ўкладваюць у бляшаную трубачку, якую прывязваюць да нагі голуба.

Пусьцяць яго. Паляціць крылаты паштальён да сябе на





станцыю, дзе ён жыў раней. Хоць і ўночы пpыляціць, дык пазнаюць. Бо калі ён прыляціць у галубятню і пралезе праз дзьверцы, дык зазвоніць званок, які там прымацаваны. Вартаўнік галубятні знойдзе гэтага голуба, здыме бляшаную трубачку з паперкай і перадасьць камандзіру. Часта на вайне гэтая разумная, сьмелая птушка выратоўвала тысячы людзей ад сьмерці.

---

Чырвонай арміі патрэбны добрыя паштовыя галубы і спрактыкаваныя галубаводы. Многія дзеці любяць галубоў і разводзяць іх.

Трэба, каб дзеці зацікавіліся гадаваньнем паштовых галубоў. Трэба навучыцца іх выхоўваць і разводзіць.

Д. Бедны

# ДАЛЁКА-ЎСХОДНЯЯ

*(Вайсковая песьня)*

Нас разьбіць, разьбіць хацелі,
Нас разьбіць стараліся,
Мы-ж таксама не сядзелі,
Мы падрыхтаваліся.

У кітайцаў генэралы
Ўсе ваякі сьмелыя,
На рабочыя кварталы
Пруць, як ачмурэлыя.

Бальшавіцкую „заразу“
Зьнішчыць зажадалася,
Але-ж справа іх адразу
Вельмі дрэннай сталася.

Нас разьбіць, разьбіць хацелі,
Нас разьбіць стараліся.
Мы-ж таксама не сядзелі,
Мы падрыхтаваліся.

# У ГОСЬЦІ ДА ТАВ. БЛЮХЕРА

Улетку мінулага году быў міжнародны зьлёт пролетарскіх дзяцей. Дэлегаты зьлёту парашылі схадзіць у госьці да тав. Блюхера—камандзіра Асобнай Далёка-Ўсходняй арміі. Ім хацелася пагутарыць з тав. Блюхерам аб тым, як наша Чырвоная армія дала адпор кітайскім генэралам, якія сілаю захапілі савецкую чыгунку.



*Тав. Блюхер.*

Страшна стала дзецям, калі пачалі стукаць у дзьверы да тав. Блюхера.

— Як да такога камандзіра стукаць? Яшчэ гаварыць ня будзе,—думалі яны.

Але вось Блюхер адчыніў дзьверы і ласкава запрасіў дзяцей. Нясьмела ўвайшлі дзеці. Тав. Блюхер пасадзіў усіх, сам сеў і пачалі гутарыць.

Дзеці расказалі, што яны сабралі 500 р. на койкі для параненых чырвонаармейцаў, сабралі шмат розных падарункаў.

Уважліва выслухаў іх тав. Блюхер і сказаў:

— Ну, а цяпер, буду гаварыць я.

— Ці ведаеце, вы, дзеці, за што мы змагаліся?

— За сваю пролетарскую бацькаўшчыну, —у адзін голас адказалі дзеці.

— Кітайскія бандыты хацелі даведацца, ці маем мы сілу. Яны думалі, што мы слабыя. Але бандыты памыліліся. Наша армія магутная. Чырвонаармеец, ідучы ў бой, казаў: „Я іду паміраць за ўладу Саветаў і, калі не вярнуся, пасьля сьмерці лічэце мяне комуністым“. Змагаліся дружна і адважна. Камандзіры ішлі першымі ў бой.

Кітайскія салдаты баяліся папасьціся да нас у палон, бо афіцэры іх пужалі. Казалі ім усякую хлусьню аб Чырвонай арміі.

15 тысяч палоньнікаў прайшло праз нашы рукі, але нікога мы не зачапілі. Палонных кармілі і адпускалі дамоў. Гэтыя салдаты ў палоне даведаліся, што такое Чырвоная армія і за чые інтарэсы яна змагаецца. Яны цяпер у вёсках расказваюць праўду аб савецкай краіне.

Калі мы прыходзілі ў кітайскія гарады, дык там было ўсё разбурана белагвардзейцамі. Мы наводзілі там парадак. Раздавалі бедным хлеб.

У нашай арміі служыў хлопчык Чарапонаў. Яму ўсяго 15 гадоў. Ён быў добрым разьведчыкам. Адзін раз у бойцы, пад яго камандай, былі ўзяты ў палон кітайскія салдаты. Урад ўзнагародзіў гэтага хлопчыка ордэнам Чырвонага Сьцягу.

Цяпер наша армія вучыцца. На варце мы стаім цьвёрда. Вам, падрастаючай зьмене, трэба рыхтаваць з сябе добрых байцоў вывучаць вайсковую справу.

Потым тав. Блюхер сказаў, што ён мае 5 ордэнаў Чырвонага Сьцягу.

— Колькі вам гадоў?—запытаў нехта з дзяцей.

— 41,—адказаў тав. Блюхер.

Разьвітаўшыся з тав. Блюхерам, дзеці, здаволеныя, пашлі дамоў.






*Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ*

*Малюнкі САМАТЫЯ*

Сёньня, у дзень 13-й гадавіны Чырвонай арміі, дзеці пашлі ў госьці да чырвонаармейцаў. Яны проста зьдзівіліся, як ўвайшлі ў вялікае памяшканьне „Школы чырвоных камандзіраў."

— Тут можна заблудзіцца,— сказаў маленькі Віця.

— Ці-ж у доме заблудзіш?— падхапіла Іра.

Дзяцей ласкава спаткалі курсанты і павялі іх аглядаць памяшканьне. Першым паказалі хімічны пакой.

— Вось гэта доўгія балёны, у якіх знаходзіцца атрутны газ. У выпадку вайны, іх будуць кідаць з самалёту,—пачаў тлумачыць дзецям адзін з курсантаў.



— А гэта што?—убачылі дзеці на сьцяне маскі.

— Гэта працівагаз. Вось каля роту прычэплена трубка, у нізе якой ёсьць каробка. У гэтай каробцы ляжыць вугаль, калі атрутны газ праходзіць праз вугаль, дык траціць сваю атруту. У рот ідзе толькі чыстае паветра. Але вугаль гэты патрэбна мяняць, бо ён псуецца,—тлумачыў курсант.

— Што гэта за чалавек стаіць у кутку?—спыталіся дзеці.

— А гэта цэлы працівагазны гарнітур. Ён захоўвае ад газу ўсё цела чалавека. Бо ёсьць і такі газ, які атручвае цела.

Потым глядзелі „пакой акоп".

— Вось гэта загародка з калючага дроту, а гэта „воўчыя ямы",—казаў курсант.

— Навошта яны,—цікавіліся дзеці.

— Чакайце, усё скажу. Зьверху ямы прыкрыты розным галь-

лём. Як толькі вораг ступіць на гальлё, дык і праваліцца ў яму, бо гальлё слаба трымаецца,— тлумачыў курсант.

Доўга і ўважліва аглядалі дзеці гэты пакой.

— Ідзеце сюды, паглядзім наш „чырвоны куток“, — паклікаў другі курсант.



Там была цішыня. Чырвонаармейцы чыталі газэты і кніжкі. Некаторыя гулялі ў шахматы і шашкі. На сьценах віселі лёзунгі, партрэты правадыроў, плякаты, насьценгазэта.

— А дзе вы сьпіце?—пацікавіліся дзеці.

Іх павялі ў вялікія сьветлыя пакоі.

— Вось як чыста, сьветла,— загудзелі дзеці.

Доўга хадзілі дзеці і аглядалі памяшканьне, дзе жывуць і працуюць нашы будучыя чырвоныя камандзіры. Пры адыходзе дзеці дзякавалі курсантам за тое, што аб усім ім расказалі. Нават запрасілі курсантаў да сябе ў госьці.



— Мы таксама шмат працуем. А падрасьцем, дык вас заменім,—сказалі на разьвітаньне дзеці.

**Супроць буржуазіі, якая рыхтуе на нас напад, мы павінны паставіць нашую жалезную, добра абучаную, палітычна-стойкую, добра ўзброеную бальшэвіцкую армію.**

**(К. ВАРАШЫЛАЎ)**




*Апавяданьне. Р. АКУЛЬШЫНА*

Міхаську завуць „чырвоны хлопчык". Валасы ў Міхаські рыжанькія, як агонь. Носік востры.

У сьвята Міхаська апранае чырвоную рубашку. Здалёк паглядзіш—як мак расьцьвіў.

Міхаська маленькі, а ўмее чытаць і скакаць.

Адзін раз на спэктаклі скакалі хлопцы і дзяўчаты. Міхаська праціснуўся на сцэну, выбег на. сярэдзіну і давай скакаць. Усе запляскалі ў ладкі.

— Ай, маладзец!

Убачыў Міхаська мяне, пытае:

— Кніжку дасі?

— Дам.

— Прыду да цябе.

— Прыходзь.

Вечарам падзьмуў халодны вецер, пачаў сыпацца сьнег. Мароз размаляваў на вокнах розныя дзіўныя кветкі і лісты. Я стаў сьпіною да печкі—пагрэцца. Раптам чую за вакном крык:

— Адчыні вароты!

— Каго тут нясе ў такі холад?—адчыніў дзьверы, а гэта—Міхаська.

— Па кніжку прышоў.

— Зьмёрз, мабыць? Хадзем у хату скарэй. Хто цябе пусьціў гэтак позна?

— Бяз спросу ўцёк.

— Ну і дурасьлівец ты!

У хаце мы побач з Міхаськам сталі плячыма да печкі пагрэцца.

— Хопіць грэцца,—сказаў Міхаська,—кніжку давай.

Я падвёў яго да стала і сказаў:—Выбірай!

Міхаська выбраў самую тоўстую. Ледзь падняў яе.

За вакном пачуліся галасы:

— Міхаська ў вас?

Міхаськавы бацькі ўбеглі ў хату і хацелі палаяць хлопчыка. Я заступіўся за яго.

Маці ўсьміхнулася:

— Вучоным будзе, усё кніжкі чытае.

Бацька ўзяў сына на рукі, схаваў у кажух і панёс дамоў.

Міхаську было цёпла пад бацькавым кажухом.



# СЬВЯТА ХІМЧЫНАЙ МАМЫ

*Апавяданьне Ўс. ШЫДЛОЎСКАГА*

I

Мама Хімкі працавала на крухмальным заводзе, які кожную раніцу тоненьнім, працяжным голасам гудкоў клікаў рабочых на працу. І заўсёды, калі толькі гудок урываўся ў хату, Хімчына мама хутка апраналася ды ішла на завод.

Да 9-ці гадзін дома заставалася адна Хімка. А калі гадзіньнік на сьцяне выстукваў звонка дзевяць разоў, тады Хімка зьвязвала свае кніжкі ў хусточку і бегла ў школу.

У выхадны дзень Хімка гуляла дома, або ішла да свае таварышкі Гэлькі, з якой яна вучылася ў аднэй групе. Хімка і Гэлька чыталі кніжкі, якія ім давала настаўніца ў школе. Кніжкі гэтыя былі з прыгожымі малюнкамі і вялікімі літарамі. Такія кніжкі вельмі падабаліся дзяўчаткам.

Хімцы і Гэльцы па дзесяць гадоў. Абедзьве яны вучацца ў другой групе. Настаўніца Маня Язэпаўна заўжды іх хваліць, што яны добра ўмеюць чытаць і пісаць. Гэта вельмі падабаецца дзяўчаткам і яны заўсёды стараюцца вучыць вурок, каб заўтра яшчэ лепей прачытаць у школе.

Мама Хімкі з работы прыходзіла позна ўвечары. А Хімка з школы прыходзіла раней. За гэты час яна прыбірала ў хаце, падмятала падлогу і ставіла ўсе рэчы ў парадак. Мама ёй заўсёды купляла падарункі—кніжкі з малюнкамі, або расказвала, як працуюць на заводзе. Хімка вельмі любіла слухаць маміну гутарку і заўсёды прасіла яе, каб яна што-небудзь расказала.

Аднойчы мама прынёсла Хімцы навіну:

— Заўтра мы на заводзе будзем сьвяткаваць „Дзень працоўнай жанчыны—8-га сакавіка“. У клюбе ў нас будзе вечар. Я і цябе вазьму з сабою,—сказала мама Хімцы.



Рада была Хімка. Яна даўно ўжо хацела схадзіць у клюб заводу, але ня было зручнага выпадку.

## II

Назаўтра Хімка паважна ішла ў школу. Яна несла кніжкі пад пахаю, а ня ў хустачцы, як заўсёды. І сама вопратка неяк прыгажэй ляжала на яе плячох.

На дварэ была адлега. З стрэх будынкаў людзі скідалі далоў мокры сьнег. Сьнег гэты засыпаў дарогу і ўсім, хто ішоў па тратуары, прыходзілася пераходзіць на сярэдзіну вуліцы.

Крыклівы аўтобус зноў зганяў людзей на тратуар. Хімцы таксама прышлося сыйсьці з тратуару, каб не закідаў сьнег і прабегчы некалькі крокаў другім бокам вуліцы.

На рагу вуліцы Хімка спаткалася з сваёй настаўніцай.

— Ну як, крошка, маешся?— спытала ласкава настаўніца.

— А я сягодня на завод пайду з мамай,—не сьцярпела і пахвалілася Хімка,—на сьвята жанчыны!

— А адкуль-жа ты ведаеш пра сьвята жанчыны?—спытала настаўніца.

— Мне мама сказала. Вечар на заводзе будзе.

— Добра, добра, мы сёньня ў школе таксама аб гэтым пагутарым.

У школе настаўніца многа гаварыла дзецям пра жанчын:

— Даўней пры цары, жанчыну ня лічылі за чалавека. Жанчын мала вучылася. Поп і кулак зьдзекваліся над жанчынай. Яны казалі, што жанчыны павінны ўсіх слухаць і ўсё рабіць, што ім кажуць. Ні на сход, нікуды жанчын ня пускалі. Толькі Савецкая ўлада прынесла жанчынам вызваленьне. Цяпер жанчына вольная грамадзянка. Яна мае права кіраваць дзяржавай. І вось кожны год мы сьвяткуем „8-га сакавіка—дзень жанчыны“.

Пасьля гутаркі настаўніца чытала пра тое, як жанчыны працуюць на фабрыках і заводах, як жанчыны кіруюць у сельсавеце і ў колгасе.

Заняткі сёньня скончыліся раней, чым заўсёды і дзеці пабеглі дамоў.

## III

Калі прышла мама з Хімкаю ў клюб заводу, дык там ужо было многа жанчын, што працавалі на гэтым заводзе. Лямпы гарэлі сьветла і неяк урачыста выглядаў клюб. На сьценах віселі лёзунгі:

„Нашы мамы павінны па-ўдарнаму выконваць промфінплян!“
„На заводзе не павінна быць прагулаў!“

— Гэтыя лёзунгі піонэры напісалі,—гаварыла Хімцы мама,— піонэры і клюб упрыгожылі.

— А што такое „промфінплян“, —спытала Хімка.

— Гэта такі плян, які паказвае колькі наш завод павінен за год зрабіць крухмалу, і на колькі панізіць на яго цану,— адказала мама.

Хімка з захапленьнем разглядала розныя партрэты і плякаты, якія ўпрыгожвалі клюб. Вельмі прыгожа было намалёвана, як дзеці гуляюць у дзіцячым садзе. Хімка некалькі разоў глядзела на гэты малюнак.

Праз некаторы час адчынілася заслона і на сцэне за чырвоным сталом жанчына пачала гаварыць. Потым яшчэ некалькі жанчын гаварылі:

— Мы даўней былі цёмныя, нас прыгняталі, цяпер мы вольна працуем. Над намі няма панскага бізуна... Нам трэба перавыканаць промфінплян.

Усё слухала Хімка. Чаго не разумела, дык у мамы пытала і мама ёй усё тлумачыла.

Як скончылі гаварыць, тады піонэры вышлі на сцэну і вершы расказвалі. Прыгожыя вершы. Хімцы яны вельмі спадабаліся. Хімка папрасілася ў мамы, каб яна пусьціла яе выйсьці на сцэну і расказаць вершык. Мама згадзілася.

Тады Хімка прабегла між лаваў і выбегла на сцэну. Усе сьціхлі і чакалі, што скажа гэта малая дзяўчынка.

А Хімка прадэклямавала:

*На заводзе прагулаў не*
*павінна быць,*
*Дружна трэба ўсім рабіць.*
*Каб звонка сьпявалі машыны,*
*Працуйце ударна жанчыны!*

Хімка скончыла і зноў прыбегла да мамы.

А калі разыходзіліся дамоў, дык жанчыны хвалілі Хімку і казалі, што яны будуць працаваць на заводзе па-ўдарнаму.






Апавяданьне В. І. ТОЛЬСКАГА

Малюнкі РОЗАНАВА

Наша група—самая дурасьлівая ва ўсёй школе.

Ня было тут дню, каб не нарабілі якой бяды.

То шкло разьляціцца на кавалкі, то Шурцы Ціхоні коску падрэжуць, то музыку кашачую наладзяць.

Ніколі наша група з чорнай дошкі ня зыходзіла.

І вось Таня і Толя Турскія спаборніцтва з другою клясаю прапанавалі наладзіць.

Дзеці яны добрыя былі, ва ўсім прыкладныя, а ўсё-ж пачалі з іх сьмяяцца.

Міколка Бузун першы.

— Вось выдумалі. Ды мы-ж ніколі нічога ня вучылі, на лекцыі заўсёды спазьняемся. Мы—кажа,—самыя прыкладныя, ды толькі з другога канца.

— Не,—адказвае Толя—можна, браткі, падцягнуцца. На заводзе ніхто не спазьняецца, а наша школа—той самы завод. Бачылі вы гадзіньнік? Як там усё добра прыстасавана. А толькі папсуеш якую шрубку—і гадзіньнік нікуды ня варты. Дык вось мы, як тая папсаваная шрубка, усёй справе шкодзім...

І пашоў, і пашоў...

Адным словам, угаварыў.

Пачала наша братва падцягвацца, на лекцыі акуратна прыходзіць.

Наперадзе ад усіх Толя і Таня ідуць. А тут раптам і здарылася.

— Што здарылася? — пытаецеся вы. А вось зараз будзеце ведаць. Пакуль толькі скажу: ледзь нашы прыкладныя ў самым канцы не апынуліся і спаборніцтва не правалілі.

* * *

Невялікая кватэра ў бацькоў Толі і Тані.

Два цесных пакойчыкі ды кухня малюсенькая.

Затое ў адным пакойчыку—у сталовай—вялікі насьценны гадзіньнік.

Вісіць ён на сьцяне над канапай.

І дзень і ноч па ўсёй кватэры чуецца—цік-так, цік-так, цік-так...

Б‘е гадзіньнік павольна, звонка.

Добра ідзе гадзіньнік: ні на хвіліну не спазьняецца.

Раніцою прачнецца Толіна і Таніна маці, слухае—калі гадзіньнік праб‘е сем гадзін.

Зазвоніць гадзіньнік — бум, бум, бум...—сем разоў.

Пачне штурхаць тады маці Толю і Таню: „Уставайце, мае ўдарнікі, уставайце. У школу час ісьці“.

Прачнуцца дзеці, вып‘юць гарбаты і ў школу пабягуць.

Вернуцца дзеці са школы, паабедаюць—і возьмуцца гуляць ці кніжку чытаць.

Знайшлі неяк кошку на вуліцы. Прынесьлі яе дахаты. Упрасілі матку пакінуць кошку ў сябе.

Кошачка рахманая ўдалася, шэранькая, прыгожанькая.

Назвалі яе Лялькай.

Ляжа Лялька на канапе, скруціцца ў камячок і чакае дзяцей—калі яны са школы вернуцца, гуляць з ёй будуць.

А гадзіньнік усё — цік-так, цік-так, цік-так...

Ляльцы здаецца—у гадзіньніку мышанё дурасьлівае забаўляецца і скрабецца там.

Заварушыць Лялька вушкамі, прыслухаецца, а гадзіньнік усё стукае і стукае.

Крыўдна Ляльцы – мышанё яе не баіцца, мо́цна, на ўсю кватэру шуміць.

* * *

І раптам уначы гадзіньнік стаў.

Чакае раніцою маці, калі гадзіньнік праб‘е сем.

Чакае, чакае — ня чуваць звону...

Адчыніла трохі дзьверы, глядзіць на гадзіньнік,—а ён стаіць.

— Хутчэй, дзеткі, уставайце, а то спозьніцеся ў школу. Га-



*Ня было тут дню, каб не нарабілі якой бяды.*

дзіньнік наш спыніўся. Вось ня ведаю, колькі часу.

Паспрабаваў быў бацька пусьціць гадзіньнік у ход—ня ідзе: сапсавалася ў ім нешта.

* * *

Каля школьнай насьценгазэты многа дзяцей сабралася. Якжа ж—на самым відным месцы артыкул вісіць:

**Вось дык прыкладныя!**

***Нашы прыкладныя Толя і Таня Турскія сёньня на цэлую гадзіну спазьніліся.***

***Сорам зрываць спаборніцтва!***

**Усевядун.**

—

Стаяць Толя і Таня чырвоныя, чырвоныя, ад сораму, як бурак.

А Міколка Бузун сьмяецца. Відаць, сам у газэту напісаў.

* * *

Сумна зрабілася ў кватэры бяз стуканьня гадзіньніка.

Вісіць гадзіньнік на сьцяне засмучаны, сярдзіты.

Сядзяць за сталом Таня і Толя, сумныя, маркотныя.

А як-жа ж: не адно, а некалькі спазьненьняў за імі лічыцца.

І бацька на завод спазьніўся. Запрасілі майстра, каб паправіць гадзіньнік.



*Сумна ў кватэры бяз стуканьня гадзіньніка.*

Паглядзеў майстар на гадзіньнік і кажа:

— Нехта, відаць, за вагальнік гадзіньнік торгаў. Ня мог гадзіньнік сам папсавацца. Мусіць, дзеці дурэлі.

Ледзь ня плачуць дзеці:— Ці-ж нам прышло-б у галаву гадзіньнік псаваць? Мы праз гадзіньнік больш за ўсіх церпім.

Паківала маці галавой, і калі майстар паправіў гадзіньнік, павесілі яго на другое месца.

— Цяпер яго не дастанеце.

І зноў застукаў гадзіньнік весела, жвава—цік-так, цік-так.

Бум, бум, бум...

* * *

Мінуў месяц.

Наша група на першае месца вышла.

Настаўніца сказала:

— Бачыце, дзеці: варта толькі дружна ўзяцца за работу— і зараз посьпех будзе. Кожная дробязь мае значэньне ў рабоце.



*Выбеглі ў сталовую*

Вось Таня і Толя папсавалі свой гадзіньнік і...

— Мы не папсавалі гадзіньніка!—закрычалі Таня і Толя.

— А хто-ж калі ня вы?— загарланіў Міколка Бузун.— Вядома, вы.

— Не, ня мы.

— Не, вы.

Шум такі падняўся, што ледзь-ледзь супакоіла настаўніца дзяцей.

Хто сапраўды папсаваў гадзіньнік?

Гуляюць Толя і Таня ў сябе ў хаце, у сталовай. Крэслы ссунулі разам, зрабілі з іх вазок.

Лялку з сабой пасадзілі і едуць як на фурманцы.

Разгуляліся так, што і спаць класьціся не хацелі.

Ледзь маці паклала іх ў пасьцелі.

У пакоі такі гармідар зрабілі, што і ў парадак не пасьпелі прывесьці.

Засталіся крэслы не на месцы, адно на другім—пад гадзіньнікам.

Ляжаць усе—сьпяць...

Раптам, пад раніцу стук раздаецца. Грукнула крэсла, заскуголіў нехта ў суседнім пакоі.

Закрычала маці: — Злодзей! Злодзей!

Усхапіліся дзеці з пасьцелі. Бацька кій ухапіў.

Выбеглі ў сталовую, глядзяць—крэсла пад гадзіньнікам перакуленае. Абоі на сьцяне падраныя. Пад крэслам—Лялька жалобна мяўкае.

Маці адразу і закрычала:

— Ведаю цяпер, хто наш гадзіньнік папсаваў!

— Хто, хто, маманька?—пытаюцца дзеці.

—Ды вось пад крэслам ляжыць разбойніца.

— Лялька, мамачка?

— Яна самая. Бачыце — кіпцюрамі абоі падрапала. Яна нам заўсёды гадзіньнік псаваць будзе. Зараз-жа выкінуць гэтую паганую кошку.

— Мамачка, мамачка! Лялька болей ня будзе. Бачыш,—яна сама пабілася.

Узяў Толя Лялку на рукі, пагладзіў. Пытаецца.

— Ты, Лялечка, болей ня будзеш?

Курныкае кошачка, лашчыцца.

— Мамачка, Лялька ня будзе больш. Ня выганяй яе,—пачалі прасіць дзеці.

— Ну, добра,—хай застаецца. Толькі вы ўжо болей крэслаў не раскідайце і пад гадзіньнікам іх не пакідайце.

— Ня будзем, ня будзем, мамачка.

А гадзіньнік усё стукае— цік-так, цік-так, цік-так...

Потым — бум-бум-бум...

Сем разоў ударыў,—у школу ўдарнікам зьбірацца трэба.



*На занятках.*




# ТРЫ ВЯЛІКАНЫ

Ёсьць на зямлі тры вяліканы. Адзін з іх лётае ў паветры, другі плавае пад вадою, а трэці стаіць нярухома на зямлі.

Вялікан, які лётае ў паветры, завецца „R—101“, гэта самы вялікі дырыжабль у сьвеце.

Ён у паўтара разы большы за нямецкі дырыжабль „Граф Цэпелін“, які ўвосень мінулага году пралятаў у Маскву.

Гэты дырыжабль пабудован ангельцамі. Яго даўжыня — 219 мэтраў. Ляціць ён пры дапамозе 5-ці рухавікоў, якія могуць пацягнуць гэтулькі, колькі пацягнуць 2.340 коняй.

Людзі ўзлазяць на гэты дырыжабль па вялікіх драбінах-усходках. Да гэтых драбін прымацован пярэдні канец дырыжабля. Там ёсьць 25 пакояў для людзей, сталовая на 50 чалавек, 2 шырокіх калідоры для гуляньня. Ёсьць таксама электрычная кухня і пакой для каманды, якая кіруе дырыжаблем. Усяго дырыжабль бярэ на сябе 50 чалавек. Пралятае ён за гадзіну 102 кілёмэтры.




*Падводны крэйсар, дырыжабль і небаскроб.*

Пасьля таго, як пабываў у Маскве дырыжабль „Граф Цэпелін“, працоўныя Савецкага Саюзу распачалі збор сродкаў на пабудову Савецкіх дырыжабляў.

У нас будуць пабудаваны дырыжаблі: „Правда“, „Клім Варашылаў“ і інш. Усе дзеці павінны дапамагчы зьбіраць сродкі на пабудову савецкіх дырыжабляў.

Другі вялікан—гэта францускі падводны крэйсар „Сюркуф“. Ён значна большы за самыя магутныя ангельскія крэйсары. Капіталістыя сьпешна рыхтуюцца да будучай вайны і стараюцца выперадзіць адзін другога сваім узбраеньнем.

З надворнага боку крэйсар „Сюркуф“ абшыты броняй. А броня—гэта такі цьвёрды матар'ял, якога не праб'е нават куля. „Сюркуф“—самы большы падводны карабель у сьвеце.

І ўрэшце—трэці вялікан. Гэта найвялікшы ў сьвеце небаскроб (вялізарны дом), які будуецца ў горадзе Манхатане ў Амэрыцы. 16 гадоў самым вялікім небаскробам лічыўся небаскроб Вульварта, які мае 241 мэтр вышыні. Але гэты новы небаскроб будзе большы. Ён будзе мець вышыню 255 мэтраў.



Выдавецтва
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ.
ЯКІМОВІЧ А.

ЦАНА 18 кап.







# ЗАГАДКІ

1. Ляцелі галкі,
   Селі на палкі.
   Селі па аднэй—
   Галка лішняя.
   Селі па дзьве—
   Палка лішняя.
   Колькі было галак?
   Колькі было палак?

* * *

2. Кручу, бурчу і нікога знаць не хачу.

* * *

3. Што цяплей: ці тры рубашкі ці адна рубашка, але па таўшчыні роўная тром?

* * *

4. Ці ёсьць у вас у хаце рэчы, зробленыя з пяску?

* * *

5. Сырая бульба—усярэдзіне мокрая. З яе можна выціснуць ваду. А вараная—сухая, хоць і варылася ў вадзе. Чаму вараная бульба сухая?









Друкарня імя Сталіна. Заказ № 198. Тыраж 5.500. Галоўлітбел 426.